*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 36(370) 16 ВЕРАСНЯ 1998 г.**

## Чатыры тыдні ў жніўні

*Прыватны агляд беларускага друку*

**"Канчатковае Вырашэнне беларускага пытання". (С.Шаўцоў, "Звязда", 31.07.98г., 13.08.98г)**
**Канец ВКЛ па Чэславу Мілашу (Спадчына № 3, 98г)**
**Моўны апатрэід (А.Станкевіч. Хто вы, дыктар Рагуля? Навіны №87).**

" ... Мне чамусьці не хочацца займаць пазіцыю" — нават без гэтых словаў, артыкул заслугоўваў на ўвагу, бо закранае праблемы мовы, ды і напісаны па слядах публікацыі "Нашага слова". Трэба было б, можа, выкласці тут пярэчанні знакамітаму карэспандэнту, давесці памылковасць ягоных вызначэнняў. Але пэўныя абагульненні ў канцы артыкула павярнулі ўсё іншым бокам.

Аўтару не хочацца займаць пазіцыю, бо ўсе мы вінаватыя ў лёсе беларускай мовы, што, на ягоную думку, давёў рэферэндум. Таму ён, як я зразумеў, лічыць сябе ў пэўным сэнсе вызваленым ад абавязку займаць пазіцыю па гэтым пытанні.

Вось толькі ці аднолькавая віна тых, хто галасаваў "за" і тых хто "супраць" — гэтае пытанне сп.Шаўцоў палічыў за лепшае не кранаць. Бо тады ягоная пазіцыя траціць кропку апоры. Дарма вучылі яго, што жыць у грамадстве і быць вольным ад яго — нельга.

~~Пачаўшы~~ пісаць на грамадска-палітычныя тэмы, сп.Шаўцоў пашырыў нашы веды пра ягоны светапогляд. Раней, абгрунтоўваючы ў сваіх нарысах права чалавека паддавацца часам ціску загадаў і віхураў лёсу, ён выглядаў (на маё успрыманне) гуманістам. Цяпер жа выявілася, на маю думку, глыбейшая адсутнасць непрымання зла, што ўжо хутчэй падобна на беспрынцыпнасць. Але — дзеля чаго ўсё гэта напісана — пазіцыя ўсяго ёсць, хочацца таго, ці не.

У старажытнасці нездарма ўпрыгожвалі ініцыялы чалавечымі фігуркамі. За кожнай літарай стаіць чалавек. Людзі хаваюцца за літары, і іхняя пазіцыя значыць заўсёды болей, чым літаральны змест іхніх словаў. Часам вызначэнне стаўлення чалавека па ягоных словах выглядала як праца Ш.Холмса пад шыфрам "Вясёлых чалавечкаў", але часцей ён выкладае свой светапогляд нават дакладней, чым меў намер зрабіць.

Публікацыя ў "Спадчыне" пазнаёміла нас не толькі з праўдалюбцам і антыкамуністам Юзафам Мацкевічам, але і з эгацэнтрычным Ч.Міклашам, які аднак вельмі чула напісаў пра няпросты лёс віленскага пісьменніка і журналіста. Пазнаёміліся чытачы і з перакладчыкам В.Булгакавым, які так пераклаў тэкст, што ён чытаецца месцамі як перакладзены з ангельскае мовы на тамільскую. Вяртаючыся да асобы і твораў Ю.Мацкевіча, я спадзяюся, што ў хуткім часе беларускі чытач зможа пазнаёміцца з ягонымі раманамі "Дарога нікуды" і " Не гаварыце галосна", якія, упэўнены, нікога не пакінуць раўнадушным.

Дарэчы, да калізій ваеннага часу звярнуўся ў сваім вялікім артыкуле А.Старыкевіч. Вядомы журналіст з вялікай сімпатыяй рэпрэзантаваў чытачам асобу Б.Рагулі, але чамусьці матэр'ял выклікаў у мяне мяшаныя пачуцці. Па-расейску трэба пісаць такія рэчы, бо беларусамоўны чытач меў ужо не адну нагоду пра ўсё даведацца. А то атрымліваецца як у былыя часы: "два светы — дзве ідэалогіі". На маю думку беларускамоўныя тэксты мусяць аналізаваць перш за ўсё пазіцыю рускамоўных колаў, а расейскамоўныя: тлумачыць пазіцыю беларускамоўных. Тым болей, у двухмоўнай газеце. Інакш пра якое "паразуменне", пра якую "кансалідацыю" ці "нацыянальную згоду" можа ісці гаворка? У нас жа квітнее моўны апартэід: па-беларуску пра гісторыю ды культуру, па-расейску пра іншае, і каб, барані Бог, не пераблытаць.

Калі гэткім шляхам ісці да храма, то ў храме знойдзем страшнага, а то і крыважаднага бога.

*Д.Ж.*

## Да 75-годдзя Міколы Грынчыка

Пераконваў нас класік, мудры Янка Купала,
Што дзень беларускае мовы настане.
Сумняваўся ў гэтым сучаснік наш Панчанка Пімен,
Бо ў штодзённасці горкай ён бачыў на гэта прычыны...

Але волаты ёсць. Сярод нас яны сёння жывуць
І вяршыняю ў неба сягаюць, і карэннямі ўсходы даюць,
У іх вучні растуць, паслядоўнікаў шмат у Айчыне,
Пакуль водзіцца зубр, наша родная мова не згіне.

*Лілея Дзямешка*

Ад вытокаў легенд і паданняў
Да сучаснага вершаскладання,
Ад традыцый Францішка Скарыны
Да наватарскіх вершаў Максіма,

Эдуард, Анатоль, Мікола...
Колькі слаўных імёнаў наўкола!
Але сёння бліжэй між іншых
Нам шаноўны Мікола Грынчык.

*В. Бігеза*
*Л. Даніленка*



***12 верасня ўся эліта Гарадзеншчыны, і не толькі, ушаноўвала Алеся Белакоза з нагоды яго 70-годдзя. Жыццё Белакоза - гэта прыклад таго, колькі можа зрабіць адзін чалавек на карысць Радзімы нават у вёсцы, калі ён рабіць хоча.***

## Алесю Белакозу да 70-цігоддзя

На гэтай зямлі ганарова быць туркам,
Расейцам таксама не з горшага быць,
Не блага быць немцам, французам, удмуртам
Кітайцам, японцам, ці ўсіх палічыць.

Арабу не кепцка жывецца пад сонцам
Ангелец смяецца, не плача і грэк,
І ім не цікава што ў свеце бязконцым
Скрыўджаны ёсць не адзін чалавек.

Не будзе на гэтым на свеце парадку
І ладу не будзе да тога на ім
Покуль імперый парэшткі, астаткі
Будуць тут гніць і смярдзець нам усім.

Б'ецца Ірландыя ў муках за волю,
Баскі аплачваюць волю крывёй,
Курды, прakляўшы і лёс свой і долю,
З трыма аж дзяржавамі сталі на бой.

Хоча свабоды Квябэк ад Канады,
Хоча Шатландыя, волі сваёй ,
Ды толькі ці здолець ці даць усім рады,
Ці Богу патрэбны бясконцы той бой?

Ці Богу патрэбна каб тут пад Мастамі
Семсят гадочкаў адзін Белакоз
Быў беларусам і днямі, гадамі
Адзін Беларушчыну гэтую нёс?

Мы сёння паўсталі як курды, як баскі,
І нас не стаптаць там за колькі гадзін,
Ну а да тога з Гасподняе ласкі
Быў Белакоз і быў проста адзін.

Мудра і стойка, як камень амшалы,
Не вывернуць гадам, не ссунуць на бок,
Мала такіх было, вельмі замала,
Ды ўсёж і сюды пасылаў іх Пан-Бог.

Мы сёння глядзім на зямлю сваю з болем,
Нас прадаюць прапіваюць, што дзень,
Ды толькі ніколі, ніколі, ніколі
Мы не папусцімся гэтай бядзе.

Семсят гадоў Белакоз не паддаўся,
Дай жа нам Божа па столькі зрабіць,
Кожны каб так жа, як ён, не хістаўся
Кожны, як ён, беларусам змог быць.

На гэтай зямлі быць не дрэнна індусам,
Ды толькі магу вам пра тое сказаць:
Прыдзе той час кожны тут беларусам
З гонарам будзе сябе называць.

*Станіслаў Суднік*

## Роздум над артыкулам "Партрэт Дарыяна Грэя" "Наша Ніва" № 15 (112)

Наведалі нашыя пісьменнікі прэзыдэнта. Ну і што? Вярнуліся ні з чым. Ну і што?

Вінаваціць інтэлігентаў у тым, што іх не зусім зразумелі і што яны не дабіліся таго, чаго хацелі, думаю, будзе не надта карэктна. Інтэлігент ён на тое і інтэлігент, каб не ўмець пераконваць. Тым больш, калі хтосьці ў нечым пераконваецца не надта жадае.

Хадзіць ці не хадзіць — гэта была асабістая справа кожнага пісьменніка. Я не думаю, што выбар гэты быў занадта лёгкім. А ці быў гэты выбар правільным, напэўна, яшчэ зарана рабіць высновы. Тым больш такія: "Той, хто схадзіў, на жаль, ужо страчаны для беларускай літаратуры".

Зразумела, можна не зважаць на рэаліі сённяшняга жыцця, не бачыць вакол сябе анічога такога, чаго бачыць не хочацца. Можна сказаць самому сабе: Фі! Гэта ніжэй мяне! — і пайсці куды-небудзь з горда паднятай галавою. Можна жыць у нейкім выдуманым міце, але ўсё гэта, на маю думку, ні літаратуры як частку нашай нацыянальнай культуры, ні самую гэтую культуру не выратуе.

Страўс, калі хавае ад небяспекі сваю галаву у пясок, ад той небяспекі, на жаль, не ўратоўваецца. Не хацець бачыць нашае сённяшняе жыццё — гэта зусім не значыць яго палепшыць.

Мажліва, сапраўды, сіла канфармізму беларускіх пісьменнікаў — у адзінстве. Мажліва, гэтаму канфармізму замінае сённяшні раскол, бо адныя пайшлі, іншыя ж - не. Але калі мне скажуць пра якое-небудзь адзінства, дык адразу чамусьці ўспамінаецца маё піянерскае дзяцінства з калонамі, рапартамі і жыццём пад Паўліка Марозава або Зою Касмадзям'янскую.

Нават тым пісьменнікам, хто хадзіў, нельга даваць усім аднолькавыя адзнакі. Надта ж яны ўжо розныя паміж сабою. Напэўна, гэта добра.

А ладзіць пахаванне беларускай літаратуры яшчэ рана.

*Лілея Сазанавец*
*г.Ліда.*

## РАЗВІТАННЕ З АЙЦОМ ЯНАМ

5 верасня 1998 г. у Чырвоным касцёле ў Менску беларуская грамадскасць (менчукі, прадстаўнікі рэгіёнаў, беларускай дыяспары з Англіі, Польшчы, Летувы, Расеі і іншых краін) развіталася з айцом Янам Матусевічам, адным са знакамітых дзеячоў беларускага Адраджэння канца ХХ стагоддзя.

Ян Матусевіч быў адным з першых святароў на Беларусі, які 10 год, пачынаючы з касцёла ў Барунах (1988 г.), вёў набажэнствы толькі па-беларуску. Акрамя таго, ён быў ля вытокаў стварэння ТБМ і ў апошнія гады ўваходзіў у склад Рады нашага Таварыства. Маючы невялікія заробкі, айцец Ян здолеў ахвяраваць 100 даляраў на патрэбы ТБМ, што сведчыць аб яго адданасці не на словах, а на справе ідэям беларускага Адраджэння.

І вось урачыстая развітальная служба ў Чырвоным касцёле... Касцёльная зала была перапоўнена людзьмі рознага веку і розных веравызнанняў. Іх яднала ў гэты горкі час шчырая, сардэчная любоў да гэтага слабага здароўем, але моцнага духам чалавека. Большую частку службы правёў айцец Аляксандр Надсан, апостальскі візітар на Беларусі, які стала жыве ў Лондане.

Пад высокімі гатычнымі скляпеннямі гучалі пранікнёныя словы святароў, спевы і малітвы шматлікіх вернікаў. Усё гэта ад пачатку да канца багаслужбы, што доўжылася болей чым дзве гадзіны, адбывалася па-беларуску. Мне падумалася: вось бы сабраць сюды ўсіх нашых праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанскіх святароў, якія служаць па-расейску, па-стараславянску ці па-польску і сказаць ім: "Калі хочаце сапраўды служыць беларускаму народу, а не быць праваднікамі нейкай замежнай палітыкі, бярыце, шаноўныя, прыклад з айца Яна - служыце па-беларуску!"Бо сказана ў Святым Пісанні: "Спачатку было Слова!" А ў кожнага народа яно сваё, роднае, адзінае і адракацца ад яго вялікі грэх.

Хавалі айца Яна на старажытнай Кальварыі. Каля магілы таксама было шмат людзей. З развітальнымі словамі ад імя ТБМ выступіў аўтар гэтых радкоў і прафесар Саламонаў, старшыня Менскай гарадской арганізацыі нашага Таварыства. На свежы магільны пагорак сябры ТБМ усклалі вянок ад сваёй арганізацыі з развітальнымі словамі.

Мы спадзяёмся, што святарская справа Яна Матусевіча будзе прадоўжана іншымі святарамі ўсіх хрысціянскіх канфесій і беларускае слова ў ХХІ стагоддзі будзе гучаць у кожным беларускім Храме.

***Першы намеснік Старшыні ТБМ Алег Трусаў***





Ніна Ярмалінская

# Для самых маленькіх

*Ярмалінская Ніна Адамаўна нарадзілася 29 мая 1946 года у вёсцы Мазуршчына Салігорскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучылася ў Магілёўскім вучылішчы.*

*У 1977 годзе закончыла Менскі педагагічны ўніверсітэт.*

*Вершы яе друкаваліся на старонках Салігорскіх перыядычных выданняў, а таксама ў часопісе "Пралеска".*

### АЎТАМАТНЫ СОК

Пасля сняданку ў садок
Прыносяць вельмі смачны сок,
Спяшаюць дзеці да стала,
Каб выпіць кубачак да дна.
— І мне таксама,
мне таксама,
Наліце крышку, цёця Таня!
З таматаў спелых, сакавітых,
І з пахам надта знакамітым,
Так і казыча ён у носе,
Як быццам паспытаці просіць.
Валерык выпіў і, ўдзячны,
Падаў свой звонкі галасок:
— Які быў сёння вельмі смачны,
Чырвоны аўтаматны сок!

### СНЕЖНАЯ КАША

У мяне сястрычка Даша
Не хацела есці кашу
З манных круп і з тварагу.
Кажа Даша: — Не магу!
Гэта ж нейкі снег — не каша, —
Усур'ёз гаворыць Даша.

### НАШ ЧОЎНІК

Снег растаў, і па зямлі
Ручаёчкі пацяклі.
Мы зрабілі чоўнік з дрэва,
Да яго сцяжок з паперы.
І пусцілі на ваду.
Я за чоўнікам іду.
Ён плыве хутчэй, хутчэй.
Толькі скончыўся ручэй,
Рэчка хуткая віруе,
Чоўнік наш туды кіруе.
— Тата, татачка, глядзі,
Да мяне хутчэй ідзі,
Тата паглядзеў наўкола:
— Дык няхай плыве ў мора,
З ветразямі і з рулём
Будзе добрым караблём.

### МОЙ КОЦІК

Я з катком маім сябрую,
Хатку для яго майструю,
Печ зраблю, палаткі,
Каб не мёрзлі лапкі,
Тут пастаўлю ложкі,
І накрыю трошкі.
— Спі, мой коцік, спі,
Ціхенька засні.
Але коцік скок ды скок,
І на вуліцу ўцёк,
Так па снезе паімчаўся.
Мусіць, дом не спадабаўся.

### САБАЧКА

Мы сабачку зшылі з ваты
І нясём яго да хаты,
Раптам чуем:
— Гаў, гаў, гаў!
Наш сабачка забрахаў.

### ЛЯЛЬКА КАЦЯ

Мне купілі лялька Кацю,
Я люблю з ёй пагуляці.
Расчашу ёй валасы,
Запляту у дзве касы,
Пашыю сукенкі
Для маёй паненкі,
Надзену на ножкі
Новыя панчошкі,
Яшчэ ў боцікі абую,
Кацярынку так люблю я!
Для маёй сяброўкі Каці
Буду клапатлівай маці.

### І Я ЛЮБЛЮ ХАДЗІЦЬ У САДЗІК

Уранку мне сказаў Уладзік:
— А я люблю хадзіць у садзік,
— І я таксама, я таксама, —
Мацней за ўсіх крычыць Аксана,
— І я люблю хадзіць у садзік, —
Дадаў вясёлы жвавы Казік.
— Тут трактар "Беларусь", БелАЗ,
Стаіць магутны сіні МАЗ,
На ім вазіў я ўчора Сашу,
Гаворку тут спыняе нашу
Зусім маленькая Святлана:
— Мяне у садзік водзіць мама.
Адзін Алесік устрымаўся,
Гуляе з цацкамі ўбаку,
Ён потым шчыра нам прызнаўся:
— Спаць не люблю я ў садку.

### ЗБІРАЕМ УРАДЖАЙ

Агародніна паспела,
Дружна праца закіпела,
Памідоры, агуркі
Выраслі ў згодзе,
Бульба, морква, буракі
Тут, на агародзе.
Са струкоў сухіх гарох
У вядро сабраў Цімох.
Вунь якія кабачкі
Ляжаць пры дарозе,
А гарбуз які цяжкі —
Цэлы воз, дый годзе,
Палажылі на БелАЗ,
Памясціўся ён якраз,
Завязлі дахаты,
Хай ляжыць, пузаты,
Пойдзем зноў дапамагаць,
Каб хутчэй усё сабраць.

### ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ЮЛЕЧКІ

Калі Юлечка нарадзілася,
Зранку сонейка засвяцілася,
У садзе лісцікі распусціліся,
У лузе кветачкі ўсміхнуліся.
У небе зорачка заіскрылася:
— Сёння Юля ў нас нарадзілася!

* * *

Коцік, коцік, дружа,
Не хадзі па лужах,
Будзе нам работы,
Як намочыш боты!

### У ЛЕСЕ

З дзедам мы пасём кароў,
Колькі ў лесе камароў!
Шарык наш сюды прыбег,
Чую я яговы брэх,
Раптам тут, каля дарогі,
Зайчык — скок!
І стаў на ногі.
Шарык мігам іргануўся,
І за зайчыкам памкнуўся.
Я стаю і ледзь не плачу,
Вось няўдача, дык няўдача:
— Зайка, зайка, уцякай,
На сабаку не зважай,
Шарык паляцеў стралою,
За дабычаю сваёю.
Але зай таксама шпаркі,
У лес імчыцца без аглядкі.

### МАЯ МАМА

Маму моцна я люблю,
Я ёй песеньку спяю,
А на свята павіншую,
Кветкі маме падару я,
Сам прыйду на дапамогу,
Чыста вымыю падлогу,
Сподачкі і лыжкі,
Пазбіраю кніжкі,
І бялізну папрасую,
Вельмі мамачку люблю я.

### КУПІМ АПЕТЫТ

Нешта мамачка сумуе,
Мусіць, на каго сярдуе,
Ці пакрыўдзіў хто яе,
Ці ў якой яна бядзе.
Мо што смачнае прынесці.
Ды яна не хоча есці.
Я засмучаны таксама:
Што такое сёння з мамай?
Кажа мама мне сама:
— Апетыту штосьць няма,
Я да брацікa бягу,
Тату нашага заву:
— Дык хадзем хутчэй у краму,
Апетыт купляць для мамы.

### НА АГАРОДЗЕ

Вось вясна ўжо ля двара.
Агарод капаць пара.
Перакідваем рыдлёўкай
Глебу мяккую мы лоўка,
Завіхаюцца ўсе дзеці,
Так што люба паглядзеці!
Хтосьці градкі вымяраў,
Хто радочкі майстраваў,
Пасадзілі мы ўтрох
Бульбу, рэдзьку і гарох,
Моркву, буракі і кроп,
А затым зрабілі плот.
Палілі мы ў канцы,
Вось якія малайцы!



### МАЯ БЕЛАРУСЬ

Беларусь ты мая,
Любая старонка,
Над табою пяюць
Жаваранкі звонка.
Ціха дрэвы шумяць
У бары сасновым,
Смех дзіцячы чуваць,
Над прасторам новым.
Беларусь ты мая,
Пушчы векавыя
Слаўлю я твой народ,
Рукі залатыя.

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ ШКОЛА!

Ступае восень зноў паволі,
Ляціць у выраў шмат чарод,
Адкрыты вучням дзверы школы
У новы навучальны год.
І ціхім верасьнёўскім ранкам
Блішчаць травінкі ад расы,
Вясёлы смех на школьным ганку,
Чуваць здалёку галасы:
— Ты пачакай мяне, Ігнатка, —
Сустрэліся два сябрукі:
— Ты паглядзі сюды, мой братка.
І у мяне ж партфель такі.
Намаляваны заяц з воўкам,
Сядзяць у згодзе, паглядзі.
А ўнізе выведзена лоўка,
Бы ў мульціку: "Ну погоди!"
І радасныя дзеці ў школу
Пабеглі першы раз,
Бо ўжо звінеў званок вясёлы,
І запрашаў у светлы клас.

### ВЯСНОЙ

Вельмі хараша вясной!
Луг заліты ўвесь вадой,
Дзе яна пачне спадаць,
Кветкі жоўтыя відаць.
Гэта лотаць расцвіла
Каля нашага сяла.
З татам мы на луг пайшлі,
Многа кветак там знайшлі,
Я нарвала ў прыпол,
Палажыла іх на дол,
Пагуляць прашу я тату,
Бо не хочацца мне ў хату.

### ПЧОЛКА

Пчолка лётае над кветкай:
— Зум, зум, зум,
Для вас я, дзеткі,
Мёд салодзенькі збіраю,
Дзе я толькі не бываю.
Я лятаю ў лузе, ў полі,
Не стамляюся ніколі.

### МЯДЗВЕДЗЬ

Вунь, які у нас мядзведзь,
Падыходзьце паглядзець,
Ён вялікі і кудлаты,
Як чарніцы, вачаняты.
Любіць з дзеткамі гуляць,
А узімку ляжа спаць.

### РАМОНКІ

Я сёння запытаў у Ромкі:
— Ты бачыў, дзе растуць рамонкі?
— Не, — кажа ён, — не давялося.
Хадзем спытае у Антося.
А той сказаў нам:
— Дзівакі,
Вунь там на лузе, ля ракі.
Расце там кветак шмат усякіх,
Гваздзічак, мятлікаў, чубатак,
Чабор густы і пахне мята,
І незабудак там багата.
Ёсць медуніца, зверабой,
І ландыш белы пад вярбой,
Снуюць ля кветак пчолкі роем,
Гудуць чмялі, як перад боем,
Стаіць у лузе гоман звонкі,
А побач тут цвітуць рамонкі.

### ЗВАНОЧАК

Сярод травы на тонкай ножцы
Расце званочак на дарожцы.
Гайдае ветрык яго смела.
То ў правы бок,
А то ў левы,
А то зусім званочак знікне,
Галоўкаю ўніз панікне.
То выгляне з травы здалёку,
І усміхнецца сінім вокам.
Звініць ён песеньку аб леце:
— Дзынь, дзынь, дзынь,
Дзынь, дзень добры, дзеці!

### КАРОВА ЛЫСУХА

Му! — ідуць каровы з пашы.
Дзе яна, Лысуха наша?
Выбягаю сустракаць,
Каб самому ў хлеў загнаць.
А яна хвастом махае,
Камароў і мух зганяе.
Я пачухаў ёй за вухам,
Моўчкі слухае Лысуха,
П'е сабе ваду з вядра,
Дасць яна мне малака.





З фондаў музея Максіма Багдановіча ў Гародні

# Лісты Наталлі Арсеневай да Дануты Бічэль-Загнетавай

*20 верасня 1998 г. Наталлі Арсеневай спаўняецца 95 гадоў. Яна памерла 25 чэрвеня 1997 года ў Рачэстары,ЗША, дзе жыла апошнія гады.*

*Наталля Арсенева — класік беларускай паэзіі, але Беларусь ведае яе толькі як аўтарку словаў песні "Магутны Божа", якую яна напісала ў жалобе па загінуўшым у Менску ў вайну старэйшым сыне.*

*Яна нарадзілася ў Баку 20.09.1903 г. вучылася ў Вільні ў 1-й Беларускай гімназіі і ў Віленскім універсітэце, які не закончыла па сямейных абставінах. Як жонка польскага афіцэра была рэпрэсавана ў БССР і вывезена ў Казахстан у 1940 г., вызвалена ў маі 1941 г. Вайну перажыла ў акупаваным Менску, у 44 годзе выехала ў Германію, адтуль у 50 у ЗША.*

*Выдала кнігі паэзіі "Пад сінім небам", Вільня, 1927 г., "Між берагоў", Нью-Ёрк, 1979г.*

*Пісала словы да песняў, лібрэта, перакладала з розных моваў. Лісты Наталлі Арсеневай да Дануты Бічэль — гэта ўзор эпісталярнага жанру. Па іх могуць вучыцца школьнікі, як трэба пісаць лісты.*

*Адметна, як ставілася вялікая паэтка да творчасці сваёй маладзейшай калегі па пяру.*

*Мы захавалі правапіс у публікацыі лістоў, бо з перакладам іх на мову цяперашняга правапісу яны шмат страцілі б.*

*P.S. Як раз блізка дата 20 верасня!*

**8.1.88г.**

**Даражэнькая!**

Вярнуўшыся ад знаёмых з Канады ў мінулым тыдні, засьпела Ваш ліст, ён чакаў мяне тут на мяне амаль тры тыдні, дык сьпяшаюся на яго адказаць. Перад усім, вельмі цешуся, што пакрысе знаёмімся, пачынаем перапісвацца, чуцца адной роднай сямейкай. Я тут, у Рачэстары, чуюся часта вельмі самотнай. Беларусоў тут амаль няма. Але трымаю ўсе гэтыя гады (ужо 20) шчыльную сувязь зь Нью-Ёркам і больш-менш у курсе усіх нашых спраў. Жывём мы таксама вельмі сьціпла й супакойна, выгадавала сыну таксама парачку, ўнука і ўнучку. Але яны яшчэ не жэняцца, хоць унук ужо жыве асобна. Унучка скончыла каледж і ўжо другі год працуе. У нашым Рачэстары жыцьцё плыве вельмі супакойна. Гэта досыць вялікае места (каля 300 000 жыхарства) ёсць вялікі універсытэт, палітэхніка й кансэрваторыя, але мы амаль ніякага ўдзелу ў жыцьці гораду не бяром. У нас тут лепшыя (як для мяне) разрыўкі — возера Антарыё, колькі паркаў, якія больш падобныя да лесу, адным словам, прыгожая, жывая прырода.

Ці паверыце, у парку, што да нас блізка, шмат грыбоў, сапраўдных "нашых" баравічкоў! І наогул, вакол вельмі прыгожа, ня верыцца, што жывём у такім вялікім месьце. Больш, пакуль што, нічога ня пішу. Калі гэты ліст атрымаеце, напішу больш. Н.А.

**1.XI.88г.**

**Даражэнькая!**

Даўно ўжо, яшчэ ў верасні, атрымала ад Вас другі ліст, ішоў ён вельмі хутка, а доўга не адказвала таму, што чакала адбіткаў Вашых вершаў з цыклю "Эўфрасіньні Полацкай", якія мне абяцалі прысласць зь Нью-Ёрку, а тады рыхтаваліся да г. зв. "Сустрэчы Беларусаў", якія адбываюцца тут што пару год. Сёлетняя (18-ая) была бадай што найбольшая, прыехалі на яе людзі з усяе Амэрыкі, з Эўропы, нават далёкай Аўстраліі. Супала наша Сустрэча з 1000 хрысьціянства на Беларусі. У сувязі з гэтым Беларусы Амэрыкі выдалі паштоўку Крыж Эўфрасіньні, якую пасылаю ў гэтым лісьце й Вам, а ну ж дойдзе. Гэта была б цудоўная ілюстрацыя да Вашага вершу "Крыж".

У праграме Сустрэчы было высьвячэньне з гэтае нагоды вялікага драўлянага Крыжа ў Прошчы, якіх 200 кілямэтраў ад Таронта ў Канадзе. Тут некалі, яшчэ ў пачатку мінулага стагодзьдзя, мясцовыя індыяне замучылі і забілі двух францускіх манахаў — місіянераў (Канада тады належала Францыі). З гадамі гэты прыгожы ўзгорак над лясамі й вазёрамі стаўся прошчаю, куды прыходзілі людзі з сваімі бедамі й просьбамі, маліліся. Ля падножжа ўзгорку вырас гарадок. У самой прошчы пабудаваная вялікая й вельмі прыгожая капліца. А тады эмігранты з усяго сьвету пачалі будаваць і стаўляць у памяць сваіх пакінутых родных краінаў на гэтым узгорку сваіх Крыжоў і помнікаў. Цяпер тут ёсць 40 гэткіх памятак. ня было толькі беларускае. І вот сёлета ўдалося сабраць грошы й паставіць на самым шчыце ўзгорку й беларускае памяткі, высокага Крыжа, вельмі прыгожага, хоць простага, драўлянага. Выглядае ён цудоўна, а ўнізе — лясы й вазёры, куды не глянеш. Сустрэча трывала 2 дні, а на 3-ці паехалі ў Прошчу асьвяціць Крыж "за долю й шчасьце Беларусі". Наш Крыж найвышэй на ўзгорку, бо пакуль што апошні, суседзямі нашымі, крыху ніжэй, Югаславы й Філіпінцы. Пасылаю Вам прысьвечаны гэтай урачыстасьці верш, які, як і Ваш, завецца "Крыж", укладаю яго ў гэты ліст, можа дойдзе. Быў на Сустрэчы Сакрат Яновіч з жонкай Таняй, з Беластоку, быў ён і ў Прошчы. Вельмі мне спадабаліся. Прыяжджалі ў ЗША Оля Корбут з мужам, але ў Канадзе ня былі. Яны зьведалі ўсе нашы беларускія асяродкі. Данчык, унук мае найбліжэйшай сяброўкі Яні, якая жыве ў Нью-Ёрку, езьдзіў зь імі па ўсёй Амэрыцы, як перакладчык. А вось верш "Крыж":

Як вокам скінуць —
сьцяг пушчаў сініх,
за пушчай далеч
яшчэ сіней.
А тут, на ўзвышшы,
стаіць над імі
наш Крыж прыгожы,
маўляў у сьне ...
Шмат чулі сьвету
Крыжы маленькіяў,
шмат просьбаў,
выкаваных бядой,
прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць калені,
сьвяціць не нечы ўжо
Крыж, а свой.
— "Зрабі свабоднай,
зрабі шчасьлівай
краіну нашу" —
маліўся хор,
і ўторыў натаўп,
і сьпелай нівай
хінуўся, ветру
наперакор.
А вецер дужаў,
кудысь аблокі
зусім павосеньску
ўжо, плылі,
маўчала Прошча,
ўнізе ж далёка
сінелі зарасьнікі й палі
...
— "Магутны Божа",
бяз слоў прасілі
мы ўсе, а рукі
узьняўшы ўвыш,
стаяў нязрушна
на ўзгорку схіле
ён, гэткі родны
ўжо сэрцу, Крыж.
..........................

Тут дождж на
ймгненьне
каменьне спляміў,
рассыпаў кроплі
ў траве, ў лісьці.
Няйнакш — і нехта
дзесь там, над намі,
наш Крыж вадою
сьвятою хрысьціў.
(5.9.88г.)

Калі мой гэты ліст атрымаеце, зараз адпішыце, хацелася б, каб Вы атрымалі паштоўку. А пакуль што, бывайце здаровы.

Вашая Н.А.

**Рачэстар 22.10.89г.**

**Даражэнькая!**

Ня крыўдуйце на мяне, што гэтак доўга не адпісвала на Ваш ліст, але мае хатнія абставіны гэтак склаліся, што ўсё давялося адкласьці набок. Справа ў тым, што жыву я з сынам, 20 год таму давялося мне кінуць усё наладжанае жыцьцё ў Нью-Ёрку, кватэру, працу, сяброў і ехаць да сына ў Рачэстар — ён застаўся з двумя нялетнімі дзецьмі на руках пасьля сьмерці жонкі й прасіў мяне дапамагчы яму з імі. Ён у мяне застаўся адзін (старэйшы загінуў у часе вайны ў 1943 годзе) й я не магла яму адмовіць, кінула ўсё й прыехала да сына, выгадавала дзяцей (хлапцу было тады 8, а дзяўчыне 4 1/2 гады), і вось ужо й сын праз колькі месяцаў выходзіць на пэнсію, (яму якраз споўнілася 65 год), і дзеці вырасьлі, але й мне ж ужо мінула 20 верасьня 86 год! Так што, здавалася б, цяпер я магла б ужо уздыхнуць свабодна, але насунулася іншая бяда: бацькі мае нябожчыцы нявесткі, якія жылі дагэтуль у добрым здароўі ў Флярыдзе і якіх мы наведвалі штогод у іхняй там блізу курортнай мясцовасьці (ім аднаму 86, а другой 82 гады), раптам пачалі хварэць і мне давялося туды ехаць іх даглядзець, бо сын мой ня мог кінуць працы, а ўнучка таксама працуе, ды й што яна там магла б дапамагчы!

Вось я й была там усё лета, справы ў іх зусім дрэнныя, чым гэта ўсё скончыцца, ня ведаем, а тут — захварэла і ўнучка — на ейную машыну, калі яна ехала з працы, наехаў нейкі п'яніца і ў выніку ў ейнай сьпіне былі пашкоджаны 4 пазванкі, боль быў страшэнны, не магла ні ляжаць, ні сядзець, цэлы месяц не працавала. Цяпер лепш, ужо працуе, пакуль што поў-дня, але я ўзноў занятая хатняй працай і ўсімі хатнімі справамі, не гаворачы ўжо аб маральных перажываньнях. Я, ведама, ня скарджуся, у жыцьці ж усяк бывае, але ўсё ж лепш, каб усіх гэтых клопатаў ня было.

Але цяпер, даражэнькая, ужо купіла вялікі канвэрт і бяруся высылаць Вам маю кніжку, тым больш, што ў міжчасе выйшаў дазвол на перасылку ў СССР літаратуры (кніг, журналаў і г.д.). На мінулым тыдні атрымала ліст з БССР ад В.Аксак, між іншым, яна піша, што бачыла й чытала маю кніжку "Між берагамі", добрыя людзі далі пачытаць" яна піша. "Між берагамі" выйшла ў сьвет год 10 таму, нявялікім, параўнальна, тыражом, і засталося іх ужо вельмі мала, у мяне асабіста ўсяго тры экзэмпляры, адзін пасылаю Вам. Рэшта, колькі іх там ёсць, собскасьць "Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва" ў Нью-Ёрку (Старшыня Вітаўт Кіпель). Ведаю, што ён выслаў некаму ў Менску пару раз па 5 кніжак і яны там ходзяць па руках, "добрыя людцы даюць чытаць", як піша Валя Аксак. Вось, здаецца, пакуль што і ўсё.

У нас сёлета было вельмі гарачае й засушлівае лета, дык грыбоў, на жаль, зусім ня было. А цяпер ужо запраўдная восень! Дрэвы стаяць усе ў золаце й гэтак прыгожа, што аж сэрца сьціскаецца!

Вашая Н.Арсеньнева.

Надпіс на кнізе Наталлі Арсеньневай "Між берагамі" Нью-Ёрк, 1979г.

"Дарагая Данута! Дзеляць нас з Вамі адлегласьці ў тысячы міляў, але чуемся мы, быццам лучыць і нас і нашую творчасьць нешта непадзельнае й чарадзейнае, а гэта слова — Беларусь!

Ці ж не? Хай жа ж будзе яно, гэта слова, і з намі заўжды і ўсюды.

Натальля Арсеньнева, кастрычнік, 1989г.

**10.2.91г.**

**Даражэнькая!**

Учора атрымала ад Данчыкавай бабці, а маёй адзінай, можна сказаць, запраўднай сяброўкі Яні ліст і Вашу кніжку "А на Палесьсі". Пакуль кніжка да мяне нарэшце трапіла, мінула гэткім чынам шмат месяцаў. Яна піша, што яна нечага шукала й знайшла яе на дне бюрка. Відаць, Данчык, якому кніжку передала Вера Бартуль, паклаў яе яшчэ ўлетку ў шуфляду й забыўся аб ёй. Ведама, у маладых вецер у галаве", — як Яня піша. Вельмі цешуся, што ў рэшце рэштаў кніжка ўсё ж у мяне й вельмі, вельмі Вам за яе дзякую. Мне вельмі падабаюцца Вашыя вершы пра нашую даўніну, пра Эфрасіньню Полацкую, пра Усяслава Чарадзея, Лазара Богшу... Як шкада, што Вас ня было на Сустрэчы Беларусоў ў Кліўлендзе сёлета. Гэта была запраўдная сустрэча пасьля стольких год накіданай нам варажнечы, зялезных заслонаў, маны ... Я, хоць усяго пару тыдняў пасьля досыць цяжкае апэрацыі, усё ж наважылася таксама на яе, сустрэчу, пацягнуцца, і не шкадую, бо так цудоўна было пачуцца й нам і нашым сябром — беларусам з -за мяжы, зь Менску, адным непадзельным цэлым, дзцьмі аднае Бацькаўшчыны — Беларусі !

Сустрэча аднак мінула й засталіся адно ўспаміны і невясёлая штодзённасць, Увесь апошні год крыху хварэю, прычапілася нейкая трасца з роду вірусавых захварваньняў, чхаю, кашляю, глытаю антыбіётыкі, а хвароба трымаецца. Ну, можа, як прыйдзе вясна, пацяплее, пачуюся лепш, увесь вольны час аддаю перапісцы, адказам на лісты зь Беларусі, а таксама зь Польшчы. Усе просяць матар'ялаў з мае біяграфіі або кніжкаў, але я й сама ніякіх матар'ялаў ня маю, бо за часы вайны ўсё, што мела, пагублялася й засталіся адно ўспаміны. Дзякуй Богу, што памяць мая мне яшчэ добра служыць, хоць мне ідзе ўжо 88 год! З гэтае прычыны ня крыўдуйце, калі не заўсёды мо' ў пару адказваю маім карэспандэнтам, (у тым ліку й Вам), на лісты ці просьбы, стараюся рабіць, што магу, а з кожнага гэткага ліста вельмі цешуся, бо веру, што Жыве Беларусь і будзе жыць!

Вашая Натальля Арсеньнева.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 14. 09. 98 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 2067.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.